наша свабода

№55(142) ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

30 ТРАЎНЯ 2001 года СЕРАДА

Адрас: 220123, г.Мінск, а/я 103

тэл. 228-69-18, 210-02-53

E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ



## Гарматная гільза замест звону

*Беларускі экзархат РПЦ і суд супроць прыхаджанаў*

стар.5

## Замужем за патриархом

*Патриарх Московский и всея Руси Алексий II был женат. Но этого факта нет ни в одной его официальной биографии.*

стар.7

## Афрыканскі архібіскуп парушыў цалібат

*71-гадовы замбійскі святар абраў у жонкі маладую карэянку*

стар.7

## Палітычнае пасланне «чацвёрцы» ад КРДС

На 8 чэрвеня запланаваны «круглы стол» з назвай «Шырокая грамадская кааліцыя: рэальнасць і перспектывы», які прааналізуе перспектывы шырокай грамадзянскай кааліцыі на прэзідэнцкіх выбарах. Гэта асноўнае рашэнне, прынятае Каардынацыйнай радай дэмакратычных сілаў 29 траўня. Паводле старшыні АГП Анатоля Лябедзькі, «круглы стол» мае вызначыць «фармат кааліцыі, дзе і як праходзіць перасячэнне суб'ектаў шырокай кааліцыі, і намеціць канкрэтныя дзеянні, якія могуць стаць праграмай дзейнасці шырокай кааліцыі».

Лідэр БНФ Вінцук Вячорка падкрэсліў, што Каардынацыйная рада разглядала «тэхнічныя пытанні: кааліцыйнай працы па зборы подпісаў і кааліцыйнай працы з выбарчымі камісіямі; ухваленая праца абедзвюх рабочых групаў і дадзеныя канкрэтныя рэкамендацыі». Варта нагадаць, што група на чале з намеснікам старшыні БНФ Вячаславам Сіўчыкам займаецца падборам людзей ад апазіцыі ў выбарчыя камісіі ўсіх узроўняў, а група Васіля Шлындзікава стварае базу дадзеных на цяперашніх членаў камісіяў і спрабуе давесці да іх не фальсіфікаваць вынікі прэзідэнцкіх выбараў. Абяцанага паўтара тыдня таму вызначэння адзінага кандыдата ў прэзідэнты не адбылося. «Структуры, аб'яднаныя ў КРДС, маюць свае рэгіянальныя аддзелы, маюць дастатковы людскі рэсурс, і толькі гэтыя структуры здольныя забяспечыць агульнанацыянальнае назіранне, іншую нацыянальную работу. Гэта ёсць дэманстрацыя сілы, гэта ёсць сведчанне, што і сабраць подпісы ніводзін прэтэндэнт не зможа, ігнаруючы меркаванне КРДС. І гэта ёсць пасланне ўсім прэтэндэнтам, каб вызначаліся з адзіным як мага раней. На думку маёй арганізацыі, гэта павінна адбыцца *перад зборам подпісаў*», — заявіў Вінцук Вячорка.

**Рыгор БУЯН**



Фота Ул.ШЛАПАКА

Учора, 29 траўня, у Мінску ў Доме літаратара праходзіў з'езд Саюза пісьменнікаў Беларусі. Удзел у ім узялі каля 400 літаратараў. У прэзідыуме з'езда — сябры Рады СПБ і чыноўныя госці з'езда. Такая па старой завядзёнцы савецкіх часоў вялікая колькасць «шаноўных людзей» у прэзідыуме змушае задумацца над тым, калі ж у Саюзе пісьменнікаў адбудуцца сапраўды дэмакратычныя змены.

# Мы пабудуем новую Беларусь

## *Выступ Сямёна Домаша на З'ездзе грамадскасці рэгіёнаў Беларусі*

*Шаноўныя сябры! Паважаныя замежныя госці! Не сумняваюся, што ўсіх нас, сабраўшыхся ў гэтай зале, аб'ядноўвае пачуццё грамадзянскай адказнасці за лёс нашай Радзімы. І адначасова пачуццё горычы за тое, што наша родная Беларусь стала чорнай дзіркай на мапе Еўропы, стала полем чарговага нецывілізаванага сацыяльнага эксперыменту.*

Наша Беларусь мае велізарны патэнцыял. Бог даў нам багатую зямлю і месца ў цэнтры Еўропы. Нашыя людзі ўмеюць працаваць. Яны добрыя, гуманныя і адкрытыя, гатовыя прыйсці на дапамогу ўсім, хто трапіў у бяду.

Але сёння большая частка творчага і маральнага патэнцыялу грамадзянаў Беларусі заблакавана. Разрыў паміж чалавекам і ўладай за апошнія 7 гадоў рэзка павялічыўся.

Таўсцейшымі сталі сцены бюракратычных кабінетаў, абсталяваных мяккай мэбляй. Праз іх «слугі» не чуюць свайго народа.

Вазьму на сябе смеласць сцвярджаць, што гэтыя 7 гадоў сталі бадай адным з самых цяжкіх перыядаў у шматвяковай гісторыі Беларусі.

Сёння бачны поўны правал эканамічнай палітыкі першага прэзідэнта Беларусі. Прычым гаворка ідзе не пра асобныя памылкі, а пра прынцыповую недзеяздольнасць самой эканамічнай сістэмы. Праўда, узнікае пытанне: а ці ёсць наогул якая-небудзь сістэма?

У краіне створана мадэль, не здатная працаваць без надзвычайных мер. Нават для вырашэння самай дробнай гаспадарчай задачы ствараюцца штабы і ўсё новыя кантралюючыя органы, ледзь не ўводзіцца «асаднае» становішча.

Я прапаную кожнаму грамадзяніну Беларусі адказаць самаму сабе толькі на адзінае пытанне: «Ці стаў ён сёння жыць лепш, чым 7 гадоў назад?!»

Пераможным рэляцыям улад аб «эканамічнай стабілізацыі» і нават «пачаўшымся гаспадарчым пад'ёме» народны фальклор даў дакладную назву — «стабілізец». Зараз праблема эканомікі Беларусі не столькі ў прастойванні, колькі ў наяўнасці процілеглага вектара развіцця.

Улада аказалася ў руках невялікай групы людзей, якія не маюць вопыту дзяржаўнага кіраўніцтва і якія і да гэтага часу не зразумелі, што дзяржава Беларусь -- гэта не адсталы саўгас «Гарадзец».



Фота Ул.ШЛАПАКА

Палітыка гэтых выпадковых кіраўнікоў прывяла да таго, што краіна жыве за кошт будучых пакаленняў.

Зараз стала бачна, што дзейнасць цяперашняга кіраўніка Беларусі, які ўтрымлівае ўладу незаконна, прадстаўляе сур'ёзную пагрозу беларускай дзяржаўнасці ў самым прамым сэнсе гэтага слова.

Трагедыя народа Беларусі ў тым, што такая святая для кожнай нацыі каштоўнасць, як дзяржаўны суверэнітэт, стала разменнай манетай у не зусім чыстай палітычнай гульні кіраўнікоў Беларусі. Для іх незалежнасць краіны — гэта тавар, які яны выкарыстоўваюць дзеля вырашэння сваіх асабістых задач.

Ужо некалькі гадоў краіна знаходзіцца фактычна ў міжнароднай ізаляцыі. «Я своё общество за цивилизованным миром не поведу», — сказаў калісьці беларускі правадыр. І гэта адзінае абяцанне, якое ён выконвае непахісна.

За гэты час краіна з дружалюбным і талерантным народам сумела сапсаваць адносіны практычна з усімі суседнімі краінамі, абвясціць ідэалагічную і дыпламатычную вайну ўсяму Захаду. Беларусь стала крыніцай еўрапейскай дэстабілізацыі, сусветным ізгоем.

Беларусь выпадае з працэсаў сусветнага развіцця. Кіраўніцтва краіны прадэманстравала поўную няздольнасць адаптавацца да новых гістарычных і геапалітычных умоў, уліцца ў новую сістэму міжнародных адносінаў, стварыць спрыяльныя і бяспечныя ўмовы для існавання беларускага грамадства.

Сур'ёзную пагрозу для ўсяго нашага народа прадстаўляе канстытуцыйна-прававы крызіс. У лістападзе 1996 года ў краіне адбыўся дзяржаўны пераварот. Была ліквідавана прадстаўнічая ўлада, а з ёю дэмакратыя і прававая дзяржава.

У краіне не дзейнічае прынцып вярхавенства закона. Улады не выконваюць нават Канстытуцыю, якая была ўведзена ў выніку перавароту. Кіраўніцтва краіны не прызнае ніякіх прававых абмежаванняў сваёй дзейнасці. Вертыкаль у масавым парадку парушае правы і свабоды грамадзян.

Аўтарытарны рэжым пазбаўляе наша грамадства магчымасці выяўлення і адбору сацыяльных альтэрнатываў, выбару аптымальнай мадэлі развіцця. Заблакаваны механізмы карэкціроўкі памылковых рашэнняў. 10-мільённы народ стаў закладнікам нораву аўтарытарнага правіцеля, яго вельмі прымітыўных уяўленняў аб грамадстве.

*Заканчэнне на стар.3*

## «Зубр» патрабуе рамонту дарог

Сябры барысаўскай філіі руху «Зубр» у ноч на 27 траўня зрабілі на некаторых дарогах горада графіці. У іх ад мясцовых уладаў патрабуецца адрамантаваць дарожнае палатно ў Барысаве. Тым больш, што хутка 900-годдзе горада.

## Дзеці знайшлі мінны арсенал

Цэлы арсенал нямецкіх мінаў часоў Другой сусветнай вайны знайшлі школьнікі ў катлаване будоўлі ў мястэчку Кісялевічы Бабруйскага раёна. Будаўнічыя работы вяліся на пляцоўцы анкалагічнага дыспансера. Пасля таго як экскаватар выкапаў катлаван, дзеці палезлі туды і знайшлі нейкі няўцямны прадмет. Прыбылыя сапёры ўсяго выкапалі 48 супрацьтанкавых мінаў 50-гадовай даўніны.

## Успышка гепатыту

На Гомельшчыне – успышка гепатыту. За два апошнія месяцы ў мястэчку Мялешкавічы, што знаходзіцца ў Мазырскім раёне, зафіксаваны ажно дзесятак выпадкаў гэтай хваробы. Амаль усе захварэўшыя – дзеці.

## Спаборніцтва барменаў

28 траўня ў Мінску адбыўся першы нацыянальны адборачны конкурс барменаў. 20 барменаў з Брэста і Мінска спаборнічалі ў двух намінацыях — прыгатаванне класічнага і аўтарскага кактэйляў і прэзентацыя аўтарскага кактэйля барменамі, якія ўмеюць жангліраваць бутэлькамі. Пераможцы прадставяць Беларусь у Іспаніі на міжнародным фінале аднаго з самых прэстыжных неафіцыйных чэмпіянатаў свету сярод барменаў «Бакардзі Марціні Гран-пры».

## Банкаўскае аб'яднанне

Нацыянальны банк Беларусі даў дазвол на аб'яднанне Белбізнесбанка і Беларускага банка развіцця. Плануецца, што статутны капітал новага банкаўскага ўтварэння складзе каля 30 мільёнаў долараў. Пры гэтым не выключана, што аднымі з акцыянераў банка могуць стаць літоўскія банкаўскія структуры.

## Кіначарнобыль

Кінастужку пра Чарнобыльскую катастрофу мае намер зняць рэжысёр Міхаіл Пташук. Па ягоных словах, «краіне, найбольш пацярпелай ад катастрофы, неабходна мець такі фільм». Рэжысёр, як гэта было ў выпадку з фільмам «У жніўні 44-га», ужо займеў падтрымку ўладаў.

**НАДВОР'Е**




Крыніца: www.gismeteo.ru

**Курс наяўнага долара на «чорным рынку» 1390**

## Конкурс «грамадзянаў»

Рэспубліканскае маладзёжнае грамадскае аб'яднанне *Next Stop — New Life* абвясціла аб правядзенні першага адкрытага рэспубліканскага конкурсу сцэнарыяў сацыяльнай рэкламы «Я — грамадзянін Беларусі». Да ўдзелу ў ім запрашаюцца маладыя людзі ад 16 да 30 гадоў, студэнты, навучэнцы, прадстаўнікі маладзёжных субкультур, творчая моладзь.

Як паведамілі БелаПАН у інфармацыйным цэнтры Беларускага нацыянальнага маладзёжнага савета (БНМС), праект фінансуецца ў рамках праграмы партнёрства альянса Каўнтэрпарт за кошт сродкаў, прадастаўленых Агенцтвам міжнароднага развіцця ЗША. Мэта конкурсу — прадаставіць маладым людзям магчымасць адкрыта заявіць аб сваіх сацыяльных праблемах.

У працэсе правядзення конкурсу будуць арганізаваныя яго прэзентацыі ва ўсіх абласцях краіны, дзе моладзь зможа азнаёміцца з прынцыпамі стварэння і вытворчасці сацыяльнай рэкламы, даведацца пра асноўныя правілы напісання сцэнарыяў і ўмовы конкурсу.

Як абяцаюць арганізатары, лепшыя 30 сцэнарыяў, што паступілі на конкурс, будуць выдадзеныя спецыяльным зборнікам, а па сцэнарыях пераможцаў зняты 6 рэкламных ролікаў і паказаныя на рэгіянальным тэлебачанні Беларусі.

**Аляксей АРЭШКА**

БЕЖАНЦЫ

## Яшчэ адзін уцякач-прадпрымальнік

Польшча прадаставіла палітычнае прыстанішча беларускаму прадпрымальніку, дэпутату Вярхоўнага Савета 13-га склікання Валерыю Кругавому. Пра гэта інфармацыйнаму агенцтву БелаПАН паведаміў старшыня Саюза беларускіх палітычных бежанцаў у Польшчы Ян Абадоўскі. Кругавы адшукваўся па запыце беларускіх праваахоўных органаў нібыта за невяртанне крэдытаў і ў 1998 годзе на суткі быў затрыманы польскай паліцыяй. На думку беларускіх праваабаронцаў, крымінальныя справы беларускіх прадпрымальнікаў Валерыя Кругавога, Андрэя Жукаўца, Аляксандра Пупейкі, што ў гады прэзідэнцтва Аляксандра Лукашэнкі пакінулі Беларусь і звярнуліся з просьбай аб прадастаўленні палітычнага прыстанішча ў Рэспубліцы Польшча, маюць палітычную падаплёку.

Саюз беларускіх палітычных бежанцаў у Польшчы спадзяецца, што да канца траўня статус палітычнага бежанца будзе прадастаўлены таксама Андрэю Жукаўцу. Той быў затрыманы польскай паліцыяй па запыце беларускага бюро Інтэрпола і Следчага камітэта пры МУС Беларусі і правёў пад вартай 85 сутак. З іх на працягу 34 сутак ён праводзіў галадоўку. Жукавец быў вызвалены 2 траўня.

**Генадзь БАРБАРЫЧ**

## Будучы педагог стала забойцай

Пракуратура Ленінскага раёна горада Брэста праводзіць праверку па факце выкрыцця ў інтэрнаце Брэсцкага дзяржаўнага універсітэта па вуліцы Леніна, 68 трупа нованароджанага дзіцяці мужчынскага полу. Маленькае цельца было ўтопленае ў прыбіральні і вынятае з пашкоджаннямі галавы і рук, бо давялося нават разбіваць унітаз.

Працэс расследавання прадугледжвае судова-медыцынскую экспертызу трупа і ўстанаўленне асобы, якая самым жорсткім чынам адмовілася быць маці. Следчыя спадзяюцца на яўку з пакаяннем.

**Галіна БАРАВАЯ**

## Брэст не шкадавалі і пасля вайны

Сёлета павінна распачацца праца па дэзактывацыі і рэкультывацыі аб'ектаў «802» і «Заходні», размешчаных у Брэсце.

На гэтых аб'ектах, якія знаходзяцца непадалёк ад мемарыяльнага комплексу «Брэсцкая крэпасць-герой», з 1950-х гадоў да 1998 года вялася перагрузка радыеактыўнай руды, якая паступала ў СССР з-за мяжы. Паколькі руда перагружалася з вагонаў з вузкай каляёй у айчынныя, шырокакалейныя, адкрытым спосабам, тэрыторыя пунктаў перагрузкі была моцна забруджаная радыеактыўнымі рэчывамі.

Паводле звестак апошніх даследаванняў, інтэнсіўнасць гамавыпраменьвання на паверхні і вышыні аднаго метра адпавядае норме. Магутнасць жа экспазіцыйнай дозы ў шурфах вагаецца ад 500 да 1.600 мікрарэнтгенаў у гадзіну. Глыбіня залягання радыенуклідаў складае 1,6 метра. Аб'ект «802» знаходзіцца ў санітарна-ахоўнай зоне гарадскога водазабору, таму з кожным годам узрастае небяспека пападання радыяцыі ў грунтавыя воды. Паводле папярэдніх ацэнак, колькасць забруджанага грунту і адходаў складае больш чым 26 тысяч тон. Пасля закрыцця пунктаў перагрузкі паўстала пытанне аб вывазе і утылізацыі радыеактыўнага грунту і правядзенні рэкультывацыйных работ па ўсёй прылягаючай да вузлоў тэрыторыі. З-за адсутнасці сродкаў працы на выраб праектна-каштарыснай дакументацыі па дэзактывацыі і праектаванне магільніка зацягнуліся.

Зараз канчаткова вырашанае пытанне з месцам утылізацыі адходаў. Магільнік будзе размешчаны ў Маларыцкім раёне — у 40 кіламетрах ад Брэста, у зоне гарадскога палігона цвёрдых бытавых адходаў. Мяркуецца, што працы па зняцці грунту і яго ліквідацыі распачнуцца сёлета і завершацца ў 2003 годзе. Фінансаванне будзе весціся з рэспубліканскага бюджэту.

**Валянціна КАЗЛОВІЧ**

## Брэстчына без кукурузы

Гаспадаркам Брэстчыны не даводзіцца разлічваць на кукурузу як асноўную культуру для папаўнення фуражных запасаў увосень. Ад замаразкаў напрыканцы траўня пасевы пашкоджаныя на плошчы 8.295 гектараў. Яшчэ на 4.250 гектарах зялёныя ўсходы поўнасцю загінулі раней ад засухі і ўраганнага ветру.

У абагуленых на 29 траўня звестках абласнога камітэта па сельскай гаспадарцы і харчаванні сцвярджаецца, што ў 16 раёнах ужо падлягаюць перасеву 16.923 гектараў жыта, пшаніцы, трыцікале, ячменю, аўсу, а таксама вялікія плошчы цукровых буракоў і кармавых караняплодаў. Што ж тычыцца пашкоджаных пасеваў гэтых культураў на плошчы 44.406 гектараў, то з-за дэфіцыту паліва і насення яны рамантуюцца толькі часткова. А ў большасці гаспадарак рызыкоўна спадзяюцца на імунітэт трываласці раслінаў.

**Надзея СВЯТЛІЧНАЯ**

## Пінскія ўлады закрытыя ад народа

Каля месяца таму група грамадзян Пінска звярнулася ў гарадскі выканаўчы камітэт з прапановай вывешваць у фае будынку копіі ўсіх рашэнняў выканкама, а старшыні выканкама і ягоным намеснікам праводзіць прэс-канферэнцыі з мэтай лепшага інфармавання насельніцтва.

На думку грамадзянаў, якія падпісалі зварот, жыхары горада недастаткова праінфармаваныя аб дзейнасці выканаўчай улады, паколькі публікацыі ў афіцыйнай газеце «Пінскі веснік» утрымліваюць толькі частковую інфармацыю.

Адказ, падпісаны намеснікам старшыні выканкама Федаровічам, быў атрыманы днямі. У ім гаворыцца, што, на думку выканкама, інфармацыі, надрукаванай у «Пінскім весніку», дастаткова. Пра альтэрнатыўныя прапановы грамадзян у адказе ўвогуле не ўзгадваецца.

**BARC NEWS**

## Мяжа ў Беларусі — болей, чым мяжа

28 траўня сябры Маладога Фронту віншавалі ў Мінску беларускіх памежнікаў з іх прафесійным святам. У будынку Дзяржкамітэта памежных войскаў маладафронтаўцы ўручылі дзяжурным афіцэрам і шарагоўцам кветкі і віншавальныя ўлёткі.

У іх гаварылася , што мяжа ў нашай краіне – гэта больш, чымсьці мяжа, бо «вось ужо сем гадоў у нас пануюць бязмежнае самаўладдзе, страх, насілле і мазаічная псіхапатыя, нічым не абмежаваныя дыктат і разбэшчанасць. Няма нармальных межаў перад нашэсцем крыміналу, нелегалаў, наркотыкаў і расійскай папсы з Усходу».

**Алесь КАТОВІЧ**

ФОТАФАКТ



Фота Ул.ШЛАПАКА

● У вясенні дзень на беларускай мяжы

## Беларусь займела суперкамп'ютэр

На мінулым тыдні ў Пераслаўлі-Залескім (Яраслаўская вобласць) у Інстытуце праграмных сістэмаў (ІПС) Расійскай акадэміі навук завяршылася трохдзённая прэзентацыя першага этапа праграмы — «Распрацоўка і асваенне ў серыйнай вытворчасці сямейства высокапрадукцыйных вылічальных сістэмаў з паралельнай архітэктурай (суперкамп'ютэраў) і стварэнне прыкладных праграмна-апаратных комплексаў на іх аснове». Як паведамілі мясцовыя СМІ, гэтая расійска-беларуская праграма разлічаная на 3 гады (2000-2003), і першы яе этап завяршыўся стварэннем двух узораў суперкамп'ютэраў «СКІФ».

З беларускага боку ў рэалізацыі праграмы бяруць удзел прадпрыемства «Кібернетыка», унітарнае прадпрыемства «Белмікрасістэмы», Навукова-даследчы інстытут электронных вылічальных машын, Інстытут цепла- і масаабмену Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі і іншыя арганізацыі.

Асноўныя характарыстыкі суперкамп'ютэра: колькасць працэсараў — 32; вылічальных вузлоў — 16; аператыўная памяць — 8 ГБайт; дыскавая памяць — 160 ГБайт.

Як паведаміў выканаўчы дырэктар праграмы ад Расіі, дырэктар Даследчага цэнтра мультыпрацэсарных сістэмаў ІПС РАН Сяргей Абрамаў, параўнальны аналіз суперкамп'ютэра з замежнымі аналагамі паказаў ідэнтычнасць большасці характарыстык. Аднак пры супастаўным хуткадзеянні гэты камп'ютэр аказаўся больш танным. Кошт аднаго модуля суперкамп'ютэра складае прыкладна 5 тысяч долараў ЗША, што робіць яго даступным для самага шырокага кола карыстальнікаў: універсітэтаў і навукова-даследчых інстытутаў, буйных фірмаў і органаў дзяржаўнага кіраўніцтва.

Як падкрэсліў С.Абрамаў, два працуючыя ўзоры суперкамп'ютэра, размешчаныя адпаведна ў Беларусі і ў сценах Інстытута праграмных сістэмаў, на аснове наяўнага запачаткавання былі створаныя меней чым за год.

Калі фінансаванне праграмы будзе працягвацца, плануецца запуск суперкамп'ютэра ў серыйную вытворчасць.

**Алег САКАЛОЎ**

ФЕСТЫВАЛІ

## Вучыся адпачываць

З 1 па 3 чэрвеня ў Беларусі ўпершыню пройдзе турыстычны фестываль «Вучыся адпачываць!».

Фестываль, які пройдзе ў спорткомплексе «Раўбічы», з'яўляецца часткай V міжнароднага кангрэса «Алімпійскі спорт для ўсіх». Яго мэта — прапаганда здаровага ладу жыцця, актыўнага адпачынку і прыцягненне ўвагі грамадскасці да пытанняў развіцця ўнутранага турызму. Праграмай фестывалю прадугледжанае правядзенне некалькіх акцыяў — спартыўна-турыстычнай, сацыяльнай і культурна-забаўляльнай. У рамках мерапрыемства пройдуць чэмпіянат па пейнтболе сярод турыстычных фірмаў і зацікаўленых арганізацыяў, футбольны матч паміж зборнымі турфірмаў і банкаў, спаборніцтвы па дартсе і армрэслінгу, спаборніцтвы па пераадоленні перашкодаў сярод інвалідаў-калясачнікаў на прызы прадстаўніцтва кампаніі *PHILIPS*, паказальныя выступленні чэмпіёнаў свету па спартыўных танцах на калясках, рыцарскі турнір і іншыя мерапрыемствы.

Мяркуецца, што на фестывалі ў «Раўбічах», у якасці адпачываючых, возьмуць удзел больш чым 5 тысяч чалавек.

**Маша ПЯТРОВА, БелаПАН**

## Новая школьная дысцыпліна

У сталічнай Акадэміі паслядыпломнай адукацыі Беларусі праходзіць рэспубліканскі семінар «Выхаванне спажывецкай культуры ў школьнай моладзі — аспект спажывецкай палітыкі, рэалізуемай у Беларусі». Ён сабраў школьных настаўнікаў, якія з 1 верасня 2001 года будуць выкладаць новы курс «Асновы спажывецкіх ведаў».

Эксперымент па адпрацоўцы новага курса пройдзе ў 10 школах Мінска і 25 іншых гарадах Беларусі, а менавіта ў Мар'інай Горцы, Віцебску, Маладзечне, Барысаве, Гродне, Жодзіне і Горках Магілёўскай вобласці. Як расказаў на прэс-канферэнцыі з нагоды пачатку семінара галоўны інспектар галоўнага ўпраўлення агульнай і сярэдняй адукацыі міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь Аляксандр Улога, эксперымент будзе доўжыцца не меней за два гады і мае сваёй мэтай як адпрацоўку методыкі выкладання новай дысцыпліны, гэтак і высвятленне пытання, на працягу якога тэрміну і ў якіх класах павінен выкладацца дадзены курс. Дапаможнік па «Асновах спажывецкіх ведаў» ужо выдадзены сіламі Беларускага таварыства абароны спажыўцоў, а ўвядзенне эксперыментальнага факультатыўнага курса аказалася магчымым у рамках праекта «Павышэнне спажывецкай культуры ў галіне бяспекі харчавання ў Беларусі», які ажыццяўляецца на сродкі міжнароднай арганізацыі *Consumers international*.

**Святлана НЯСТРАХАВА**

## Камуністы — за змену ўлады

Кіраўніцтва Партыі камуністаў Беларускай упэўнена, што «адраджэнне Айчыны, устанаўленне сацыяльнай справядлівасці ў краіне магчымае толькі ў выніку змены ўлады і карэннага змянення сацыяльна-эканамічнага і палітычнага курсаў беларускай дзяржавы». Гэтая думка з'яўляецца дамінантай у выбарчай платформе ПКБ, прынятай пленумам Цэнтральнага камітэта ПКБ 26 траўня.

«Праваліўшы выкананне сваіх перадвыбарных абяцанняў і катастрафічна губляючы падтрымку народа, Аляксандр Лукашэнка і ягонае атачэнне мабілізуюць апошнія рэсурсы, каб любой цаной утрымацца пры ўладзе. ПКБ, з'яўляючыся паслядоўнай, канструктыўнай і адказнай левай апазіцыяй улады, мае адпаведныя арганізацыйныя і палітычныя рэсурсы для таго, каб... дэмакратычным шляхам дабіцца адхілення ад улады збанкрутаванага антынароднага рэжыму і апынуцца на чале сілаў, якія пачалі ажыццяўленне праграмы вываду краіны з крызісу», — гаворыцца ў прэс-рэлізе па выніках паседжання ЦК ПКБ.

Камуністы ідуць на прэзідэнцкія выбары пад лозунгам «Адзінства, народаўладдзе, сацыялізм!».

**Рычард ЛЬВОЎ**

## У Грузіі загінуў кантрактнік з Беларусі

Каўказскія «гарачыя кропкі» забралі жыццё яшчэ аднаго беларуса: у Грузіі загінуў кантрактнік памежных войскаў Расіі Віталь Чычэвіч, ураджэнец вёскі Прылукі Брэсцкага раёна.

На радзіме 23-гадовага капітана атрымалі трагічную вестку з Брэсцкага гарадскога ваенкамата яшчэ 7 дзён таму. За гэты час бацька Пётр Чычэвіч поўнасцю пасівеў і 28 траўня быў вымушаны асабіста выехаць у Маскву, бо з Расіі нават не патэлефанавалі, а, па чутках, сын быццам бы пахаваны ўжо на адных з вайсковых могілак.

**Мікола НЯЗЛОМНЫ**

АРМІЯ

## «Трафеі» і «ахвяры» памежнікаў

28 траўня штогод у Беларусі адзначаўся Дзень памежніка.

Паводле звестак Дзяржкамітэта памежных войскаў, за чатыры месяцы 2001 года цераз дзяржаўную мяжу краіны ва ўстаноўленым парадку прапушчана звыш за 1 мільён 600 тысяч адзінак транспартных сродкаў і 6 мільёнаў 300 тысяч чалавек. Больш чым 300 разоў памежнікі сутыкаліся са спробамі незаконнага правозу матэрыяльных каштоўнасцяў на суму каля 270 мільёнаў рублёў.

Затрыманы 500 парушальнікаў мяжы, а таксама прыкладна столькі ж парушальнікаў памежнага рэжыму, выяўлена больш чым 100 грамадзянаў з падробнымі і чужымі дакументамі, канфіскавана каля 3 кілаграмаў наркатычных сродкаў.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ, БелаПАН**

## Рэканструкцыя Бярозаўскай ГРЭС

Рыхтуецца да рэканструкцыі адна з найбуйнейшых беларускіх гідраэлектрастанцыяў – Бярозаўская, што ў Брэсцкая вобласці. Згодна з планам, будуць пабудаваныя два катлы з газавымі турбінамі па 25 мегават кожная. У выніку магутнасць кожнага блока электрастанцыі павялічыцца на 50 мегават. Дзякуючы гэтаму на 20% знізіцца расход паліва. Зараз распрацоўваецца архітэктурны праект надбудовы. Плануецца, што да канца года рабочая дакументацыя пройдзе экспертызу, і можна будзе распачаць рэканструкцыю.

Цяперашнім часам электрастанцыя працуе ў асноўным для айчынных спажыўцоў электраэнергіі. Аднак ужо выдзелена лінія, і да канца траўня адзін з энергаблокаў пачне пастаўляць электрычнасць у Польшчу.

**Васіль ЯКАЎЛЕЎСКІ, БелаПАН**

# Мы пабудуем новую Беларусь

## *Выступ Сямёна Домаша на З'ездзе грамадскасці рэгіёнаў Беларусі*

*Заканчэнне. Пачатак на стар.1*

Курс на ліквідацыю прававой дзяржавы пазбаўляе кіраўнікоў усіх узроўняў, гаспадарнікаў, прадпрымальнікаў, усіх грамадзян уяўленняў аб тым, што магчыма, а што немагчыма. Разбурае прававую свядомасць грамадства, зацвярджае прававы нігілізм, прывучае людзей да думкі, што ўсе праблемы можна вырашыць не з дапамогай закона, а з дапамогай сілы.

У выніку па колькасці зняволеных на тысячу жыхароў Беларусь займае адно з першых месцаў у свеце. Ва ўмовах прававога хаосу вінаватымі становяцца ўсе. Але да адказнасці прыцягваюць не ўсіх. Карупцыянерамі аб'яўляюць зыходзячы з палітычнай мэтазгоднасці.

Права стала інструментам палітычнай барацьбы. Сёння на Беларусі быць кіраўніком – адна з самых небяспечных прафесій. Усе гаспадарчыя кіраўнікі працуюць ва ўмовах тэрору кантралюючых ворганаў.

Усё гэта прывяло да рэзкага павелічэння сацыяльнага напружання. Пакуль яно не мае адкрытага праяўлення, але з цягам часу можа прывесці да сур'ёзных канфліктаў. Паглыбляецца раскол грамадства, што стварае прамую пагрозу і беларускаму народу і беларускай дзяржаве.

Такім чынам, сёння наша грамадства знаходзіцца перад гістарычным **выбарам**. Кіруючы рэжым стаў крыніцай павышанай небяспекі, паставіў Беларусь на рысу нацыянальнай катастрофы. Ён не здольны адказаць на выклік часу, ажыццявіць рэформы і мадэрнізацыю, пераход да новага ўзроўню грамадства, вывесці краіну на шлях прагрэсу.

Пытанне аб змене рэжыму выходзіць на ўзровень задачы нацыянальнага выратавання.

**Так далей жыць нельга! Наш народ заслугоўвае лепшай долі, чым быць інструментам для задавальнення хваравітай цягі да ўлады аднаго чалавека.**

Яшчэ пяць гадоў такога кіравання Беларусь не вытрымае!

Беларускае грамадства чакае пераменаў! Яно чакае і спадзяецца. Мы з Вамі можам даць людзям надзею на перамены да лепшага!

З усёй адказнасцю перад Вамі заяўляю, што я і тыя людзі, якія ідуць разам са мной, ведаем, як гэтыя перамены ажыццявіць.

Перш за ўсё, трэба пераадолець раскол нашага грамадства. Хопіць дзяліць народ на сяброў і ворагаў, на сваіх і чужых, на чэсных і нячэсных. Мы ўсе, незалежна ад палітычных поглядаў, узросту, полу, нацыянальнасці, рэлігійнай прыналежнасці, мовы, — **дзеці гэтай зямлі! Яе хопіць на ўсіх!** Дзеля выратавання нашага **агульнага дома — Беларусі** мы павінны кансалідавацца. Толькі разам мы зможам рэалізаваць сваю **«беларускую мару».**

Дзяржавай павінны кіраваць прафесіяналы. Пракуратуру павінен узначальваць прафесійны юрыст, а Нацыянальны Банк – фінансіст. Нам патрэбны ўрад народнага даверу, у склад якога павінны ўваходзіць прадстаўнікі розных палітычных сілаў.

Эканоміку трэба паставіць з галавы на ногі. Лячыць яе трэба не заклікамі, загадамі і пагрозамі, а прымяненнем механізмаў стымулявання.

Рэформы не будуць мець абвальны характар, а будуць паступовымі, паслядоўнымі і беспаваротнымі. Яны будуць праводзіцца не дзеля рэформаў, а дзеля таго, каб стварыць новыя працоўныя месцы, падняць заробкі працоўным, мадэрнізаваць вытворчасць, павялічыць яе эфектыўнасць.

Пры гэтым трэба скараціць колькасць падаткаў. Вопыт Расіі яскрава паказаў, што рэзкае скарачэнне падаткаў вядзе да значнага павелічэння паступленняў у бюджэт.

Мы выкарыстаем станоўчы вопыт па правядзенню рэформаў усімі нашымі суседзямі, а таксама ўлічым памылкі, каб іх пазбегнуць.

Недахоп энэргетычнай і сыравіннай базы павінна быць кампенсавана адкрытасцю эканомікі, лібералізацыяй знешнеэканамічнай дзейнасці, стымуляваннем замежных інвестыцый.

Неабходна ліквідаваць усе перашкоды на шляху развіцця прадпрымальніцтва, зменшыць колькасць ліцэнзій, спрасціць заканадаўства, увесці заяўны прынцып стварэння юрыдычных асобаў.

У сельскай гаспадарцы трэба зыходзіць з прынцыпа свабоднага выбару формаў гаспадарання на зямлі.

Галоўнае, чаго мы павінны дасягнуць пераўтварэннямі ў эканоміцы, — гэта разбудзіць у нашых людзей пачуццё гаспадара.



Фота Ул.ШЛАПАКА

Я не збіраюся ўступаць у спаборніцтва па абяцаннях памераў заработнай платы. Гэта задача ў першую чаргу кіраўнікоў прадпрыемстваў. Задача кіраўніцтва дзяржавы – стварыць такія магчымасці, каб чалавек мог зарабіць столькі, колькі ён хоча і колькі ён здольны. Мы створым краіну магчымасцяў, каб на сумленна зробленыя грошы кожны грамадзянін Беларусі мог пабудаваць дом, абсталяваць яго, забяспечыць жыццё сваёй сям'і, мець матэрыяльныя магчымасці для духоўнага інтэлектуальнага развіцця.

Жыллёвая праблема будзе вырашацца з дапамогай фінансава-крэдытных устаноў: іпатэчных і камунальных банкаў, кватэрных зберагальна-заемных кас.

Дзеля ўмацавання здароўя людзей патрэбна павялічыць у дзяржаўным бюджэце выдаткі на ахову здароўя, развіваць страхавую медыцыну.

Трэба ўзнавіць фінансаванне ўсіх скарочаных у апошнія гады чарнобыльскіх праграм.

Вяртанне людзей на забруджаныя радыяцыяй землі – гэта злачынства перад народам.

Трэба правесці канстытуцыйную рэформу, аднавіць паўнавартасны Парламент, правесці свабодныя і дэмакратычныя выбары на падставе прапарцыйна-мажарытарнай сістэмы.

Мы павінны забяспечыць сапраўдную незалежнасць судоў. Без гэтага немагчыма прававая дзяржава.

З самага пачатку дзейнасці новага кіраўніцтва краіны будзе забяспечаны прынцып падзелу ўладаў. Многія паўнамоцтвы прэзідэнта будуць перададзены Ураду і Парламенту.

Неабходна пашырыць правы органаў мясцовага самакіравання, іх паўнамоцтвы, фінансавую самастойнасць. Трэба пераўтварыць мясцовыя Саветы ў рэальныя органы ўлады.

Абвяргаю сцвярджэнне, што новы прэзідэнт разгоніць усіх работнікаў вертыкалі. Заяўляю аб будучым увядзенні выбарнасці кіраўнікоў мясцовых органаў улады як гарантыю іх працы ва ўладных структурах. Тым, хто карыстаецца павагай і аўтарытэтам у людзей, няма чаго баяцца за сваю пасаду.

Для грамадзян павінен дзейнічаць прынцып: «Дазволена ўсё, што не забаронена законам», а дзяржаўныя чыноўнікі павінны кіравацца прынцыпам: «Забаронена ўсё, што не дазволена законам».

Мы павінны дапамагчы міліцыі і спецслужбам заваяваць давер і павагу ў людзей. Скараціць іх колькасць да адпаведных памераў, на прыкладзе цывілізаваных краін. Пры гэтым забяспечыць годнай працай тых, хто будзе звальняцца.

На працягу пяці гадоў павінен быць забяспечаны пераход да прафесійнай арміі, пашыраны сацыяльныя гарантыі ваеннаслужачым, дзяржаўнае страхаванне іх жыцця і здароўя.

Будуць рэалізаваны спецыяльныя праграмы па вырашэнню праблем моладзі і жанчын. Моладзь павінна бачыць перспектывы жыцця ва ўласнай краіне, а не імкнуцца да эміграцыі.

Для забеспячэння свабоды слова трэба рэзка абмежаваць кантроль органаў улады над СМІ.

Кантроль над Белтэлерадыёкампаніяй будзе перададзены грамадскаму наглядальнаму Савету, створанаму на парытэтных пачатках з прадстаўнікоў органаў улады, партый, грамадскіх арганізацый, журналісцкіх саюзаў.

У знешняй палітыцы Беларусь павінна выйсці з міжнароднай ізаляцыі, шукаць сяброў, а не ворагаў, стаць актыўным суб'ектам міжнароднай палітыкі, а не аб'ектам геапалітычнага спаборніцтва.

Беларусь можа і павінна стаць стабілізуючым элементам у сістэме агульнаеўрапейскай бяспекі, гарантам забеспячэння рэгіянальнага баланса сіл.

Галоўнай задачай Міністэрства замежных справаў будзе — не дапусціць, каб на Заходняй мяжы Беларусі ўтварылася новая Берлінская сцяна.

Адным з галоўных накірункаў знешняй палітыкі будзе замацаванне добрасуседскіх і ўзаемавыгадных палітычных і эканамічных адносін з Расіяй. Наша канцэпцыя будзе грунтавацца на наступных прынцыпах:

— сяброўскія адносіны з Расіяй пры забеспячэнні суверэнітэту Беларусі;

— адмова ад палітычных, прапагандысцкіх гульняў, якія вядзе зараз кіраўніцтва Беларусі;

— акцэнт на эканоміку, а не на падпісанне віртуальных палітычных дамоваў;

— змяненне лозунга «Беларусь з Расіяй супраць Еўропы і Захаду» на лозунг «Беларусь – мост паміж Еўропай, Захадам і Расіяй».

Узаемавыгадная эканамічная інтэграцыя павінна распаўсюджвацца не толькі на Расію, але і на суседнія краіны і на ўсю Еўропу. Такім чынам, мы будзем рабіць так, каб размешчаная ў самым цэнтры Еўропы, Беларусь заняла «свой пачэсны пасад між народамі».

Лічу прынцыповым тое, што дзяржавай павінны кіраваць псіхічна здаровыя людзі. І таму ўсе кандыдаты на пасаду Прэзідэнта павінны прайсці незалежнае медыцынскае абследаванне стану псіхічнага здароўя.

Будучае кіраўніцтва дзяржавы павінна вялікую ўвагу надзяляць узроўню маралі нашага грамадства, асабліва моладзі. Для гэтага, як веруючы чалавек, я лічу, што ўлады павінны ствараць умовы для развіцця рэлігійных канфесій, аказваць ім дапамогу і супрацоўнічаць з імі. Але пры гэтым у нас не павінна быць дзяржаўнай рэлігіі. Мы не маем права прапагандаваць якое-небудзь веравызнанне, прыніжаючы пры гэтым іншае. Галоўная задача дзяржавы – абапірацца на сапраўдныя хрысціянскія каштоўнасці ў выхаванні нашых людзей. Толькі веруючы чалавек жыве ў поўнай згодзе з самім сабой і з грамадствам.

Зразумела, што гэта не канчатковая праграма будучых пераўтварэнняў. Гэта тыя прынцыповыя падыходы да праграмы, якая распрацоўваецца маёй камандай і з якой мы плануем ісці на выбары.

Народ Беларусі мае багатую і слаўную гісторыю. За намі стаяць ваяры Грундвальскай бітвы, дзяржаўныя дзеячы Вялікага Княства Літоўскага, героі нацыянальна-вызвольных паўстанняў, апосталы нацыянальнага адраджэння пачатку 20-га стагоддзя, змагары супраць фашызму апошняй вайны.

Мы павінны быць годнымі нашай вялікай гісторыі. Ні яна, ні нашы дзеці і ўнукі не прабачаць нам, калі мы аддамо яе ў рукі палітычным авантурыстам і страцім Беларусь.

Паглядзіце, колькі нас тут. А гэта толькі кропля ў моры людзей, якія жадаюць пераменаў да лепшага. Мы павінны выкарыстаць кожны, нават самы маленькі шанец, каб растлумачыць грамадзянам Беларусі, што ёсць выйсце, ёсць альтэрнатыва цяперашняму становішчу.

І калі мы ўсе разам будзем працаваць на перамогу – мы абавязкова пераможам. Галоўнае паверыць у гэта і ў свае сілы.

**Нам патрэбна новая Беларусь, і мы яе пабудуем!**

## Беларускія СМІ пад прыцэлам АБСЕ

30 траўня група беларускіх журналістаў з незалежных і дзяржаўных СМІ вылятаюць у Вену, каб расказаць прадстаўнікам АБСЕ пра сітуацыю з мас-медыя на Беларусі. Прэзідэнт Беларускай асацыяцыі журналістаў (БАЖ) Жанна Літвіна, віцэ-прэзідэнты БАЖ Уладзімір Глод і Эдуард Мельнікаў, эксперты ў пытаннях СМІ ад КСАПП Міхаіл Пастухоў і Юрый Тапарашаў, журналіст БДГ (ад дзяржаўных СМІ ў Вену запрошаныя прадстаўнікі Нацыянальнай дзяржтэлерадыёкампаніі, «Советской Белоруссии»), якія мусяць «у форме дыялога абмеркаваць сітуацыю з беларускімі СМІ, наколькі становішча беларускай прэсы адпавядае стандартам АБСЕ», падкрэсліў М.Пастухоў.

У Вену, дзе месціцца штаб-кватэра АБСЕ, беларускіх журналістаў запрасіў прадстаўнік АБСЕ па пытаннях СМІ Фраймут Дувэ. Той самы Ф.Дувэ, katoраму беларускія ўлады настойліва «раілі» спачатку перанесці планавы візіт з канца сакавіка на канец красавіка; той самы Ф.Дувэ, які адмовіўся прыехаць на Беларусь у канцы красавіка, бо беларускія ўлады адмовіліся выдаць ягонаму саветніку Дыяне Моксі ўязную візу. Атрымаўшы інфармацыю з першых вуснаў пра становішча беларускіх мас-медыя ад абодвух бакоў, Фраймут Дувэ плануе кампенсаваць свае веды па сітуацыі ў краіне напярэдадні выбараў новага прэзідэнта.

Між тым, мінулым тыднем у Мінску завяршыла работу місія АБСЕ, якая вывучала сітуацыю з беларускімі СМІ. Адной з апошніх сустрэчаў, якія правялі эксперт Бюро па дэмакратычных інстытутах і правах чалавека – БДІПЧ АБСЕ Элізабет Расмусен і дарадца аддзела па выбарах Ніколас Качароўскі, сталася сустрэча з прадстаўнікамі Кансультатыўнага савета апазіцыйных палітычных партыяў і экспертамі ў галіне СМІ. Гаворка ішла, па словах кіраўніка Цэнтра прававой дапамогі журналістам пры БАЖ Міхаіла Пастухова, «пра цяперашнюю сітуацыю ў СМІ: наколькі цяперашняя сітуацыя стварае ўмовы для правядзення адкрытых, дэмакратычных выбараў прэзідэнта. У тым ліку прадстаўнікі АБСЕ цікавіліся, ці маюць апазіцыйныя палітычныя партыі доступ да дзяржаўных СМІ».

КСАПП ахарактарызаваў сітуацыю як «трывожна-аптымістычную»: улады не ідуць ні на якія кампрамісы.

**Рыгор БУЯН**

## Раскол без расколу

5 пазачарговы з'езд Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Народная Грамада), які прайшоў у Мінску 27 траўня, прывёў да яшчэ большага разрыву паміж касцяком партыі на чале са старшынём Міколам Статкевічам і фракцыяй «За адзінства», якую ўзначальвае намеснік старшыні Аляксей Кароль. Напачатку з'езда каля трэці дэлегатаў з'езда пакінулі залу гасцініцы «Турыст», дзе праходзіў з'езд, і 58 староннікаў і членаў фракцыі ў штаб-кватэры БНФ правялі паралельную канферэнцыю. Можна канстатаваць, што фармальна раскол у Народнай Грамадзе не аформлены, але па сутнасці гэта раскол у партыі. А.Кароль тлумачыць зыход часткі дэлегатаў са з'езда «бальшавізацыяй» партыі, што праявілася ў непрызнанні паўнамоцтваў дэлегатаў ад магілёўскай гарадской арганізацыі Грамады.

Вось якімі бачацца наступствы скандалу лідэру фракцыі «За адзінства» Аляксею Каралю. «Немагчыма змагацца з аўтарытарызмам у дзяржаве, ствараючы аўтарытарную партыю, — гэта будзе перараджэнне партыі, страта сацыял-дэмакратычнай нішы... Я б сказаў, што гэта раскол унутры партыі... Я думаю, што сітуацыя з прэзідэнцкай кампаніяй і вынікі гэтай прэзідэнцкай кампаніі высветляць вельмі многае, і пасля правядзення выбараў абавязкова паўстане пытанне пра новы з'езд і пра абранне новага кіраўніцтва. Больш за тое, мы настойваем, і я ў тым ліку, на перaабранні ўсяго кіраўніцтва – старшыні і намеснікаў».

Па сутнасці, фракцыя будзе і надалей існаваць пад дахам БСДП (НГ), але дзейнічаць будзе як самастойная арганізацыя. Хаця А.Кароль і не выключае, што з фракцыі можа вырасці новая партыя. «Створаная рада фракцыі, дарэчы, яе назва цяпер будзе «фракцыя БСДП «За адзінства» – скарочаны варыянт і «фракцыя БСДП «За адзінства» ў БСДП (Народная Грамада) – поўны варыянт», — заявіў Аляксей Кароль.

Мікола Статкевіч ухіліўся ад прамой ацэнкі падзеяў 27 траўня. Старшыня Народнай Грамады гаворыць, што, спрабуючы не выносіць смецце з хаты на з'ездзе і ўхіліцца ад распальвання канфлікту, з павесткі дня з'езда напачатку было знятае пытанне пра ўнясенне зменаў у статут, паводле якіх фракцыяй магла лічыцца структура, якая б аб'ядноўвала 20% сябраў партыі, а затым, згодна з пажаданнямі фракцыі, пусціла прэсу ў залу. Хаця выканаўчае бюро прыняло рашэнне правесці закрыты з'езд. Паводле мандатнай камісіі, на з'ездзе было выдадзена 167 часовых пасведчанняў дэлегатам, удзел у перарэгістрацыі, праведзенай пасля зыходу групы А.Караля, прынялі 118 чалавек. «Сорамна, прыкра, шкада. Я ўпэўнены, што гэты канфлікт вырашыцца, людзі нікуды з партыі не сыходзяць і не сыдуць», — сцвярджае М.Статкевіч.

З'езд той часткі партыі, якая падтрымлівае М.Статкевіча, даручыла кіраўніцтву склікаць чарговы з'езд Народнай Грамады пасля прэзідэнцкіх выбараў. Там будуць падведзены вынікі выбараў, а таксама можа быць вырашаны гэты застарэлы канфлікт. А прэзідэнцкую кампанію дзве часткі партыі правядуць па ўласных сцэнарах: паўтары тысячы сацыял-дэмакратаў з 2.500 членаў Грамады мяркуюць працаваць на старшыню ФПБ Уладзіміра Ганчарыка; большасць у фракцыі «За адзінства» дабіваецца найхутчэйшага вызначэння адзінага кандыдата, і каб гэтым адзіным быў кіраўнік «Рэгіянальнай Беларусі» Сямён Домаш.

**Рыгор БУЯН**

